Сёння апошні дзень, калі можна падпісацца на “Народную Волю” з тым, каб атрымліваць з 1 сакавіка. На пошту!

№ 15 (3960)

24 лютага 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА

## Вялікі дэсант

На гэтым тыдні Беларусь наведаюць прадстаўнікі ЕС, Еўрапарламента і Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Даўно беларуска-еўрапейскія перамовы не былі такімі інтэнсіўнымі.

Ужо ўчора прагучала першая добрая навіна для афіцыйнага Мінска. *“Еўрасаюз плануе пераглядзець санкцыі ў адносінах да Беларусі ўжо ў першым паўгоддзі 2015 года”,* – пра гэта паведаміў дзяржсакратар МЗС Латвіі **Андрэйс Пілдзегавічус**, які знаходзіўся з візітам у Мінску.

24–26 лютага Беларусь наведае яшчэ адзін госць – спецыяльны дакладчык ПАСЕ па сітуацыі ў нашай краіне **Андрэа Рыгоні.** У яго запланаваны сустрэчы з кіраўніцтвам Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі, міністрамі замежных спраў, юстыцыі, інфармацыі, кіраўніком Цэнтрвыбаркама і старшынёй Канстытуцыйнага суда. Неафіцыйна вядома, што Беларусь зараз не толькі вядзе перамовы аб аднаўленні статусу нашай дэлегацыі ў ПАСЕ, але і аб адмене еўрапейскіх санкцый.

Старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька паведаміў, што еўрапейскія перамоўшчыкі правядуць сустрэчы не толькі з прадстаўнікамі афіцыйнай беларускай улады, але і з апазіцыяй. Так, у самога Лябедзькі запланаваны сустрэчы са спецдакладчыкам ПАСЕ Андрэа Рыгоні і намеснікам старшыні групы Еўрапейскай народнай партыі ў Еўрапарламенце **Сандрай Калніетэ.** На апошняй сустрэчы акрамя Лябедзькі будуць прысутнічаць лідары Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч і грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў, а таксама сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец.

Паводле інфармацыі Лябедзькі, у Мінску з візітам таксама знаходзіцца намеснік генеральнага сакратара Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў **Хельга Шмід.** З ёй палітык павінен быў сустракацца 24 лютага, аднак, паводле яго слоў, сустрэчу па невядомых прычынах адмянілі.

УЧОРА

### *Аляксандр Лукашэнка ўручыў генеральскія пагоны...*

У прыватнасці, пагоны генерал-маёра ўручаны **Паўлу Муравейку, Ігару Дземідзенку, Вячаславу Язерскаму, Аляксандру Невяроўскаму,** генерал-маёра міліцыі – **Віктару Дубаўцу** і **Віктару Сянько,** генерал-маёра юстыцыі – **Аляксею Волкаву, Алегу Шаркову** і **Максіму Вароніну. Аляксандру Худалееву** ўручаны пагоны генерал-маёра ўнутранай службы, **Ігару Маршалаву** – генерал-маёра фінансавай міліцыі.

Аляксандр Лукашэнка асабліва падкрэсліў, што атрымаць генеральскія пагоны ў Беларусі цяпер не так проста – вялікая канкурэнцыя з-за таго, што значна скарацілася колькасць генеральскіх пасад як ва Узброеных сілах, так і ў праваахоўных органах. Тым не менш штогод 23 лютага А.Лукашэнка раздае генеральскія пагоны.

### *Долар і еўра выраслі*

Учора на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы курс долара вырас адразу на 90 рублёў, еўра – на 120 рублёў. Таргі расійскага рубля не праводзіліся – у Расіі быў выхадны дзень.

ВЕДАЙ НАШЫХ!



## “Малышкі” далі агню!

*Чэмпіянат свету па біятлоне сярод юнакоў і юніёраў, які праходзіць у Раўбічах, дае падставы беларускім балельшчыкам глядзець у будучыню з аптымізмам.*

У Раўбічах слаўныя традыцыі вядомай Дар’і Домрачавай падхапіла яе цёзка **Даша Блашко**, якая стала пераможцай у спрынтарскай гонцы на 6 кіламетраў.

*«Эмоцыі феерычныя!* – радавалася пасля гонкі беларуска. – *Здзейснілася тое, да чаго імкнулася. Хвалявалася, каб ніхто мяне не абышоў, – гэта вельмі дарагая перамога! Будзем рухацца далей. Яшчэ не прыйшло разуменне, што перамагла на роднай зямлі. Вялікі дзякуй балельшчыкам, блізкім, маці... І асобная падзяка – трэнерам! Без іх нічога не было б».*

Не паспелі мы парадавацца перамозе Дашы Блашко, як учора зноў загучалі фанфары. Зборная Беларусі ў складзе **Ганны Сола, Дар’і Блашко і Дзінары Алімбекавай** заваявала “золата” ў эстафеце 3х6 км сярод дзяўчат!

«*Малышкі нашы – прыгажунькі! Новыя чэмпіёнкі свету сярод дзяўчат па біятлоне ў эстафетнай гонцы! Віншуем!*» – напісала ў сваім “Твітары” трохразовая алімпійская чэмпіёнка **Дар’я Домрачава**, якая зараз у Германіі рыхтуецца да чэмпіянату свету.

«Малышкі» далі агню! І падарылі балельшчыкам надзею на светлую будучыню беларускага біятлона.

## Ёсць яшчэ порах...

*Беларус Уладзімір Самсонаў стаў пераможцам Адкрытага чэмпіянату Катара па настольным тэнісе.*



Наш суайчыннік у фінале перамог немца **Дзмітрыя Аўчарова** – 4:1.

У красавіку **Уладзіміру Самсонаву** споўніцца 39 гадоў, але, як бачым, беларускі спартсмен яшчэ лёгка можа даць фору маладым (таму ж Дзмітрыю Аўчарову – 27 гадоў).

Ды і, мяркуючы па заявах Уладзіміра, сыходзіць з вялікага спорту ён і сам не збіраецца.

*“Пакуль магу канкурыраваць і перамагаць самых моцных сапернікаў, буду працягваць гуляць у настольны тэніс*, – сказаў Уладзімір Самсонаў у адным з апошніх інтэрв’ю. – *Наколькі мяне хопіць, не ведаю, але на сённяшні дзень Алімпіяда-2016 – у маіх планах”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГОРЯЧАЯ ТЕМА



## Кто стоит за взрывом в Харькове?

Мировые СМИ сообщили о теракте в Харькове. Там во время «Марша достоинства» при взрыве погибли три человека, более 10 ранены.

По предварительным данным, взрывное устройство было заложено на пути следования колонны и, судя по всему, приведено в действие с помощью дистанционного управления. Задержаны четверо подозреваемых в причастности к организации взрыва – члены организации “Харьковские партизаны”. Из их показаний следует, что 22 февраля они также планировали обстрелять из реактивного пехотного огнемета «Шмель» клуб, где часто собираются воины АТО и волонтеры, и один из торговых центров города.

По информации СБУ, “Шмель” российского производства главарь организации получил на территории России, в Белгороде. Об этом написал в Facebook советник главы Службы безопасности Украины **Маркиян Лубкивский.**

Поймать «партизан» удалось при подготовке ими обстрела из огнемета «Шмель» клуба, в котором собираются участники спецоперации на востоке Украины и помогающие им волонтеры.

В службе безопасности Украины отмечают, что в воскресенье в Харькове готовилось несколько терактов: задержанные планировали не только обстрел клуба, где собираются бойцы АТО и волонтеры, а также торгового центра.

Президент Украины Петр Порошенко заявил: “Наши оппоненты, наши враги попытались дестабилизировать ситуацию в стране”.

О поддержке Россией боевиков и участии российской армии в конфликте в Донецкой и Луганской областях свидетельствуют экспонаты открывшейся на Михайловской площади Киева выставки “Присутствие”. Здесь представлены документы российских военных, попавших в плен в Донбассе, современные артиллерийские комплексы, военная техника, оружие и боеприпасы, которые продолжают поставляться Россией в зону конфликта. Эту выставку посетили 22 февраля и европейские лидеры, участвовавшие в киевском “Марше достоинства”. После осмотра ее экспонатов президент Европейского совета **Дональд Туск** заявил журналистам, что он начнет консультации с лидерами стран – членов ЕС по вопросу расширения экономических санкций в связи с агрессией России против Украины.

**Сергей ИВАНОВ.**

ТАМ, ЗА КРАТАМІ...

### *Мікалаю Дзядку могуць дадаць яшчэ год зняволення*

Мікалай Дзядок павінен быў выйсці на волю ўжо ў сакавіку, але сваякі Мікалая згубілі надзею хутка ўбачыць яго на волі. На 25 лютага ў Магілёўскай турме прызначаны разгляд справы, якую ініцыявала турэмная адміністрацыя, абвінавацíўшы Дзядка ў злосным парушэнні правілаў унутранага распарадку. Фармальна гэта частка першая артыкула 411 Крымінальнага кодэкса.

У турму прыедзе суддзя Ленінскага раёна Магілёва **Ігар ШВЕДАЎ** і адвакат Мікалая **Марыя ВОЛКАВА**. Цікава, што суд, які мусіць пачацца ў 10.30, абвешчаны адкрытым для публікі. Але патрапіць на яго тая самая публіка не зможа: хто ж пусціць наведвальнікаў у турму?.. Калі суд пагодзіцца з абвінавачаннем, то Мікалай Дзядок яшчэ год можа прабыць на турэмных нарах. Нагадаем: Мікалая Дзядка затрымалі 3 верасня 2010 года па падазрэнні ў “нападзе на амбасаду Расійскай Федэрацыі» у ноч на 31 жніўня ў Мінску. Не сабраўшы дастатковай колькасці доказаў, яго арыштавалі па іншай справе – напад на Дом прафсаюзаў. Але калі і тут не было здабыта доказаў, яго не выпусцілі з-за кратаў як падазронага ў трэцяй па ліку справе – нападзе на аддзяленне «Беларусбанка».

Праз 20 сутак арышту з’явілася новая, чацвёртая, справа – удзел у несанкцыянаванай акцыі каля Генштаба Беларусі. Гэтым разам Дзядка абвінавацілі ў злосным хуліганстве.

27 мая 2011 г. у Заводскім судзе горада Мінска суддзя **Жанна ХВАЙНІЦКАЯ** пакарала Мікалая Дзядка зняволеннем на 4,5 года “па справе анархістаў”. 5 снежня 2012 года ўмовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія – са Шклоўскай калоніі №17 яго перавялі ў Магілёўскую турму №4. Новую крымінальную справу супраць палітвязня завялі ў лістападзе 2014 года, за 3 месяцы да заканчэння тэрміну пакарання.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЁСЦЬ




## У Мінску ў букіністычныя магазіны выстройваюцца чэргі

...У адзін з апошніх дзён ля кніжнага сталічнага магазіна на вуліцы Карла Маркса давялося ўбачыць чаргу з некалькіх дзясяткаў чалавек.

– Што даюць? – па звычцы цікавіліся прахожыя ў тых, хто перастунаў з нагі на нагу ў чаканні адкрыцця магазіна.

– Не даюць, а здаюць, – з веданнем справы адказвалі апошнія. – Здаём кнігі ў букіністычны аддзел.

У чарзе – людзі сярэдняга ўзросту, але пераважна – пенсіянеры, якія ў торбачках і руках трымаюць кнігі.

– Мне яны ўжо не патрэбны, а вось лішняя капейка не пашкодзіць, – кажа пенсіянерка Валянціна Сцяпанаўна, якая мае намер “здаць Чэхава”.

Зрэшты, нясуць не толькі класікаў. У ход ідзе і сучасная проза. Усё, што можа прынесці хоць нейкія грошы...

*“Кожны жадаючы можа прыйсці да нас з пашпартам і здаць на камісію кнігі, якія былі ва ўжыванні*, – тлумачыць правілы загадчыца магазіна **Наталля АЛЕКСАНДРОВІЧ** – *Асартымент дастаткова шырокі – мастацкая літаратура, класіка, гісторыя Беларусі, слоўнікі, падпісныя выданні... Крыху бяром антыкварыят. Чаму крыху? Таму што сёння складана знайсці кнігі, якія былі выдадзены, напрыклад, у XVI ці XVII стагоддзі. Але можам узяць на продаж і кнігу 2014 года, калі такой няма ў асартыменце магазіна. Камусьці яе падарылі, чалавек прачытаў, і далей яна яму ўжо не патрэбна”.*

Букіністычных магазінаў у сталіцы не вельмі шмат, а жадаючых здаць кнігі – хоць адбаўляй. Адсюль і чэргі. Хоць запісацца можна і па тэлефоне. Кошты ўзгадняюцца па дамоўленасці бакоў, і, калі выданне падыходзіць, яго выстаўляюць на рэалізацыю. Прадалі – 30 працэнтаў атрымлівае магазін, астатняе – уладальнік кнігі. Калі ж за тры месяцы выданне не купілі, яго вяртаюць гаспадару назад.

– У нас кошты ў разы меншыя, чым на новыя кнігі, – дадае Наталля Іванаўна. – Напрыклад, новая каштуе 70 тысяч, а ў нас яна – 25–30 тысяч рублёў. Студэнты шмат купляюць спецыяльнай літаратуры, усё ж танней...

**– Якія рарытэтныя кнігі да вас прыносілі апошнім часам?**

– 96 тамоў энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Ефрона 1763 года выдання, якія ацанілі ў 18 мільёнаў рублёў! Вельмі шмат нясуць царкоўнай літаратуры, антыкварныя паштоўкі, якія датычацца Мінска і Беларусі.

**– Хто вашы асноўныя кліенты?**

– Здаюць кнігі ў асноўным сталыя людзі. А вось моладзь актыўна іх купляе. Вельмі цікавіцца класікай, кнігамі па гісторыі Беларусі. І гэта не можа не радаваць!

**Алесь СІВЫ.**
*Фота аўтара.*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



## Граждане не должны лишаться права на справедливый суд

*28 января этого года вступили в силу поправки в Уголовный, Уголовно-процессуальный, Уголовно-исполнительный кодексы, Кодекс об административных правонарушениях и Процессуально-исполнительный кодекс об административных правонарушениях. О чем они? Чего ожидать от нововведений? На эти вопросы отвечает доктор юридических наук, профессор **Михаил ПАСТУХОВ**.*

**– Михаил Иванович, как вы можете оценить принятые поправки?**

– Честно говоря, весьма негативно. И не только потому, что их очень много (более сотни), но и в силу того, что некоторые из них не в ладу с принципами правового государства и действующим законодательством. Судите сами. Человеку, обвиняемому в совершении преступления, теперь сразу предлагают сотрудничать с «органами». Если он согласится, то следователь и прокурор обещают ему «льготы» в виде половины срока от того, что предусматривается в статье УК. То есть речь идет о сделке: ты признаешься, а мы тебе гарантируем уменьшить срок. Для обвиняемого, который совершил преступление, такая сделка может быть подходящим выходом из ситуации. А если к ответственности привлекли человека, не причастного к преступлению? Или если вина лица в совершении преступления не доказана? Такие случаи не исключаются, но они являются исключением из правил. Теперь будет действовать установка – добиться от обвиняемого согласия на сотрудничество со следствием, а заодно и согласия компенсировать вред, причиненный преступлением (не менее чем наполовину).

Можно отметить еще одну особенность поправок применительно к Уголовному кодексу: введение штрафных санкций в десятки статей УК. Например, наказание в виде штрафа установлено в части 2 статьи 209 («Мошенничество»), в частях 1 и 2 статьи 201 («Хищение путем злоупотребления служебными полномочиями»), в части 2 статьи 223 («Нарушение правил о сделках с драгоценными металлами и камнями». На штрафные санкции «переведены» статьи 233 («Незаконная предпринимательская деятельность») и 234 («Лжепредпринимательство»).

Складывается впечатление, что властям захотелось пополнить бюджет за счет лиц, привлекаемых к уголовной ответственности. При этом логика такая: признайся, раскайся, заплати. То обстоятельство, что во многих случаях теряется смысл уголовной ответственности, разработчиков, похоже, мало беспокоит.

**– Чем, на ваш взгляд, продиктована необходимость введения нового института уголовного процесса – соглашения о сотрудничестве?**

– Мне представляется, что введение института досудебного соглашения о сотрудничестве продиктовано стремлением упростить процесс расследования преступлений. Это позволяет решить сразу несколько сложных проблем нынешнего следствия. Во-первых, без применения силы и угроз договориться с подозреваемым (обвиняемым) о признании своей вины в совершении преступления. Во-вторых, получить не менее важные показания в отношении остальных соучастников или оговорить кого-то в интересах следствия. В-третьих, задокументировать «согласие-признание» и тем самым лишить обвиняемого возможности отказаться от своих показаний в суде. В-четвертых, освободить следователя от сбора обвинительных доказательств по принципу «признание обвиняемого – царица доказательств». В-пятых, добиться согласия на выплату любой суммы в счет компенсации вреда, причиненного преступлением.

Правда, следует видеть и негативные последствия от введения этого института. В частности, он может вступать в противоречие с основными принципами уголовного процесса: презумпцией невиновности, правом обвиняемого на защиту, принципом всестороннего, полного и объективного исследования обстоятельств дела. Так, презумпция невиновности предполагает, что органы расследования сами должны доказать виновность обвиняемого. При этом любые сомнения в доказанности обвинения должны толковаться в пользу подследственного. В случае же с «соглашением» обвиняемый сам во всем признается, и ничего доказывать не надо. Его право на защиту становится излишним. Следователю остается лишь оформить бумаги и передать прокурору. В итоге у нас может быть достигнута 100%-ная раскрываемость преступлений... без всякого расследования. Надо будет только найти людей, которые дадут показания как в отношении себя, так и других лиц, которые могли совершить преступление. Не секрет, что такая практика расследования преступлений в нашей истории применялась, правда, зачастую с применением силы.

**– Можно ли говорить о какой-то тенденции в новых поправках?**

– Да, такая тенденция просматривается. Наше законодательство становится репрессивным, причем репрессии начинают носить все больше материальный характер. Можно даже сказать, что органы следствия и суды станут, наряду с налоговыми и таможенными органами, важными источниками пополнения бюджета страны. Можно также говорить о дальнейшем наступлении на права обвиняемых в уголовном процессе. Ведь если подозреваемый (обвиняемый) подпишет соглашение о сотрудничестве, то он, по сути, отказывается от своих прав и отдает себя на усмотрение следователя и прокурора. Суд становится излишним звеном в этой сделке.

На мой взгляд, некоторые принятые поправки в своей основе следует признать неконституционными. Они противоречат принципам уголовного судопроизводства, лишают граждан права на справедливый суд. Эти поправки означают отход государства от норм права и морали. Их надо отменить как позорные для цивилизованного общества.

**Беседовал Александр НИКОНОРОВ.**

